Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

№ 33(5364) Субота, 16 сакавіка 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Круглы стол

## Два дні для адпачынку і пяць - для вучобы

***З працоўным тыднем нашых школьнікаў, можна лічыць, што справа ўжо амаль вырашаная. У планах Міністэрства адукацыі - з наступнага 2002-2003 навучальнага года перавесці школы рэспублікі на пяцідзённы вучэбны тыдзень.***

Брэсцкая вобласць зараз апрабіруе ў сваіх навучальных установах такі рэжым працы. Тэма пяцідзёнкі гучна абмяркоўваецца як у педагагічных колах, так і ў грамадстве. І менавіта ёй быў прысвечаны "круглы стол", які 12 сакавіка правяла ў памяшканні гімназіі № 7 Мінска Рэспубліканская грамадская арганізацыя кіраўнікоў сярэдняй адукацыі. Удзел у ім намесніка Міністра адукацыі К.С.Фарыно, начальніка Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі М.С.Фяськова, а таксама іншых дзеячаў адукацыі надаваў мерапрыемству значнасць і практычнасць. Меркаванні кіраўнікоў устаноў адукацыі па пытанні пяцідзёнкі ў школе заўсёды цікавяць наша міністэрства, усе прапановы, заўвагі, каментарыі, што прагучалі падчас "круглага стала", яшчэ знойдуць свой водгук у рашэннях Міністэрства адукацыі.

Трэба сказаць, што ў пасяджэнні ўдзельнічалі ў сваёй большасці дырэктары элітных школ – гімназій, ліцэяў, спецыялізаваных школ, таму асноўны клопат быў аб лёсе іх навучальных устаноў. Аднак агульнаадукацыйная школа не была забыта.

Прыемна канстатаваць, што мы ўрэшце прыйшлі да таго, што можам падараваць сваім школьнікам яшчэ адзін выхадны дзень. Супраць гэтага ўжо ніхто не выступае. Вучням патрабуецца больш часу проста для спакойнага сну, адпачынку на свежым паветры, асабістых (не звязаных са школай) спраў. Дзядулі і бабулі таксама хацелі б часцей бачыць сваіх гадаванцаў. Ды і бацькам застанецца час для пранікнёных размоў і цікавых прагулак, а не для традыцыйных ушчуванняў падчас падрыхтоўкі дзіцем хатніх заданняў. Усё, здавалася б, цудоўна! Аднак адысці ад звыклага раскладу вельмі цяжка. І кіраўнікоў школ хвалюе пытанне: як жа зрабіць пераход школы на пяцідзённы тыдзень без павелічэння вучэбнай нагрузкі і пры захаванні высокай планкі ведаў. З агульнаадукацыйнай школай усё прасцей, а вось на шляху ў элітных школ шмат складанасцей. Прычын таму дырэктары бачаць многа. Калі суботу вызваліць ад урокаў, то гэтыя ўрокі трэба будзе "раскідваць" па астатніх днях. А гэта – павелічэнне нагрузкі (і без таго немалой у такіх школах!), якая прывядзе да яшчэ большагаператамлення. Тады навошта вызваляць суботу ад заняткаў? Праблема і з нагрузкай, бо яе паніжэнне для творчага дзіцяці такое ж шкоднае як і павелічэнне. Гімназіі, ліцэі, спецшколы гадамі складвалі аптымальную для сябе праграму, план работы, таму цяжка зараз парушыць напрацаванае.

Але ж без змянення вучэбнай праграмы, павышэння якасці падручніка, інтэграцыі прадметаў, прафілізацыі не абысціся. Дырэктары выказваліся аб тым, што некаторыя прадметы са школы можна без шкадавання выкрасліць, такія, як АЗЖ, сусвет, чарчэнне, астраномія, ды і спевы ўжо ў 8 класе непатрэбны. Трэба вызначацца, якія прадметы, у якім аб'ёме і ў якім узросце неабходны дзіцяці. Прагназуючы павелічэнне хуткасці працэсу інфарматызацыі грамадства, вучоныя прыходзяць да высновы, што сёння дзяцей мы вучым не таму: мы даём ім інфармацыю, а трэба развіваць іх здольнасці, вучыць самастойнаму пошуку актуальнай інфармацыі.

Дырэктары занепакоены тымі працэсамі, якія будуць адбывацца зараз з увядзеннем пяцідзёнкі. Крайнасці вельмі палохаюць, бо зноў адны прадметы пяройдуць у разрад найгалоўнейшых, а іншыя стануць другараднымі. Мы ўжо хісталіся ад прыродазнаўчых навук у бок гуманітарных, і наадварот.

Амаль усе гаварылі аб тым, што перш чым масава пераходзіць на пяцідзённы вучэбны тыдзень, трэба вывучыць вопыт тых, хто ўжо працаваў у такім рэжыме, папярэдне ўзважыць усе цяжкасці і ўлічваць абавязкова спецыфіку школы.

Т.І.Арцемьева, дырэктар прыватнай гімназіі "ЭКО–Л", падзялілася з прысутнымі вопытам работы сваёй установы ў пяцідзённым рэжыме. На яе думку пяцідзёнка прымальна пры прадоўжаным вучэбным дні, калі наладжана добрае харчаванне і вучні маюць дастаткова часу для адпачынку. У суботу ў "ЭКО–Л" працуе шанс–клуб (факультатыўная работа) з 9 да 14 гадзін. У верасні і маі – садова–агародны час – ён звычайна не працуе.

У сістэме адукацыі нямала і іншых прыкладаў паспяховай работы школы па пяцідзёнцы.

Калі падлічыць, колькі дзіця праводзіць часу ў школе – 9 месяцаў вучэбнага года плюс яшчэ месяц аздараўлення пры школе, – то ў такім выпадку лепш суботу падараваць бацькам. Зрабіць суботу бацькоўскай. Гэта ідэал! А на самай справе школе зноў трэба будзе вырашаць праблему: чым займаць вучняў у вольную ад заняткаў суботу?

Дырэктары згадвалі, што ў старых школьных будынках не хапае памяшканняў, звычайна ёсць толькі адна актавая ды адна спартыўная залы. Каб арганізаваць для дзяцей штонебудзь карыснае і цікавае, неабходны сродкі – каб купіць спартыўны, гульневы і іншы інвентар. Прагучала прапанова далучыць да праблемы суботняга дня яшчэ два міністэрствы – Міністэрства спорту і турызму і Міністэрства культуры, якія маюць у сваім распараджэнні пэўную матэрыяльна–тэхнічную базу.

А калі зірнуць на пытанне суботы з пункту гледжання бацькоў, то атрымаецца, што яны таксама хочуць адпачыць без дзяцей ад напружанага працоўнага тыдня. Выказвалася занепакоенасць таксама становішчам настаўніка пры пяцідзёнцы: ці не паўплывае гэта на яго заробак і летні адпачынак.

Былі таксама ўзняты пытанні наконт правапарушэнняў школьнікаў, калі апошнія знаходзяцца без кантролю настаўнікаў, наконт павышанай адказнасці школы за лёс дзіцяці і г.д. Зразумела, што прадбачыць усіх нюансаў сёння нельга. Дырэктары абмеркавалі толькі самыя відавочныя праблемы, якія давядзецца ім вырашаць пры пераходзе на пяцідзённы вучэбны тыдзень.

Каменціруючы пачутае падчас "круглага стала", М.С.Фяськоў зазначыў, што Міністэрства адукацыі ўстанаўлівае вучэбны год, школы ж могуць самі вызначаць працягласць вучэбнага тыдня. Сённяшняя задача кіраўнікоў школ – тлумачыць бацькам сутнасць такога новаўвядзення – пяцідзёнкі.

**Святлана КІРСАНАВА.**



НА ЗДЫМКУ: удзельнікі сустрэчы за сталом пасяджэння.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## *"НГ" у гасцях у 41-й сярэдняй школы Мінска*

# Маленькая краіна, дзе запальваюцца зоркі

***У любой справе важны вынік. Сёння мы раскажам пра тое, як жыве і як іх дабіваецца, заўважым, не ліцэй і не гімназія, пра якія, часам падаецца, мы ўжо зарапартаваліся паведамляць, а звычайная агульнаадукацыйная школа сталіцы - 41-я.***

Паміж сабой сваю любімую школу яны – і настаўнікі, і вучні – называюць маленькай краінай на востраве Дабрыні. Чаму маленькай? Таму што гэтая школа і на самай справе такая: у ёй навучаецца ўсяго толькі 524 вучні, з якімі працуюць 44 настаўнікі. А што датычыцца другога вызначэння, чый гэта востраў, дык вось тут ужо можна пафантазіраваць, колькі душы заўгодна, бо сярод "жыхароў" гэтай краіны ёсць мастакі і эрудыты, апантаныя ведамі, летуценнікі–паэты, лірыкі і фізікі, рамантыкі–матэматыкі, аматары–вандроўнікі, шчаслівыя і не вельмі, і нават каратысты. Аднак паколькі сёння імя школе робяць матэматыкі і галоўныя героі ў ёй – яны, дык і востраў можна было б у іх гонар назваць.

Як гэта ні дзіўна, але астравок гэты згубіўся ў самым цэнтры сталіцы. Літаральна рукой падаць да галоўнай вуліцы – праспекта Скарыны. Пяць хвілін хады да БДУ, галоўныя карпусы якога, пэўна, калі вельмі захацець, можна пабачыць з вокнаў апошняга паверха будынка школы. Бліжэй за ўсіх – гэты прыцягальны і загадкавы матфак, у чым і бачыцца шчаслівая заканамернасць.

Але спачатку – пра герояў нашай краіны. Вядома, пра ўсіх і кожнага (524!) расказаць немагчыма. Возьмем галоўных. Тут сваіх герояў ведаюць. І праз іх справы, поспехі, думкі і мары адчуем атмасферу, якая тут пануе, і хто яе стварае для вучняў.

### Фантастыка, калі дзеці малююць

Пераканана, што школа пачынаецца з асобы кіраўніка. Валянціна Вікенцьеўна Понтус, дырэктар сярэдняй школы №41, па натуры чалавек сціплы, прыгожых і гучных слоў не любіць. Паказухі тым болей. Але шчыра прызналася, што ёй не сорамна расказаць і паказаць, як працуе калектыў, калі вучні школы прадстаўляюць краіну на сусветным узроўні.

Афіцыйна гэтая школа мае статус навучальнай установы з мастацкім ухілам. Ідэя стварыць мастацкія класы належыць папярэдняму дырэктару – Уладзіміру Канстанцінавічу Шчэрбе, якога цяпер за гэта ўдзячна ўспамінаюць і вучні, і калегі. Тады справа наладжвалася няпроста, бо такі кірунак у любой школе дорага каштуе. Як цяжка было набыць той жа ткацкі станок. Набылі! І колькі ён каштуе – не скажам, прамаўчым. Але сёння гэты станок – аб'ект захаплення амаль усіх дзяўчынак. З ім у жыццё яны набываюць сабе ўжо ў школе першую прафесію – ткачыхі. І якія цудоўныя рэчы вырабляюць! На здымку разам з юнымі ткачыхамі ля ткацкага станка вы бачыце чалавека, які выхоўвае ў дзяўчынак любоў да такой патрэбнай справы – гэта Леакадзія Казіміраўна Рогава, намеснік дырэктара па мастацкаму ўхілу. Міжволі прыходзіш у захапленне, калі бачыш галерэю дзіцячага лялечнага адзення. Настаўніца па ткацтву Наталля Дзмітрыеўна Кананові для дзяўчынак, па–сапраўднаму захопленых ткацтвам, штогод наладжвае этнаграфічныя экспедыцыі па Беларусі. Пра гэта ў старонцы вы пачытаеце.




Ну, а як малююць дзеці! Вучаніца 9 "А" класа Анастасія Кавальчук у пачатку красавіка збіраецца ў Данію, у першую, як прызналася яна, сваю вандроўку за мяжу. Хвалюецца. Яе малюнкі, дасланыя ў Данію на конкурс на лепшы малюнак па казках Андэрсена, былі заўважаны і адзначаны як лепшыя. Сёння ў школе Анастасія Кавальчук – як зорачка у той казцы славутага дацкага казачніка. Уся школа за яе радуецца – здымак, на якім вы бачыце гэтую сціплую, мілую дзяўчынку–дзевяцікласніцу, таму сведка. А гэта гаворыць пра многае, бадай, пра ўсё, а дакладней, пра самае галоўнае – пра дух, атмасферу, якая пануе ў гэтай маленькай школе, пра адносіны да вучня.

Дарэчы, наведалі мы яе разам з фотакарэспандэнтам у "цяжкі" панядзелак. Але цяжкім ён нам зусім і не падаўся, хутчэй, наадварот. Школа нечым зачароўвае! Чым? Спрацоўвае чалавечы фактар. Настаўнікі тут – цудоўныя. Гэта адразу, інтуітыўна адчуваеш. З першага погляду. З многімі з іх размаўляла.

– У канцы кожнай чвэрці мы робім агляд выставы творчых работ нашых вучняў, – гаворыць Валянціна Вікенцьеўна Понтус. – Мы атрымліваем такое задавальненне – не перадаць словамі. Гэта фантастыка, калі дзеці малююць! Я чалавек не сентыментальны, але часам і ў мяне наварочваюцца на вочы слёзы. Слёзы замілавання і радасці выклікае у нас, дарослых, творчасць нашых дзяцей.

Кабінет дырэктара з'яўляецца своеасаблівым салонам–выстаўкай творчых работ і дасягненняў вучняў: карціны, дыпломы пераможцаў шматлікіх матэматычных алімпіяд і г.д. Магчыма, яны дадаюць Валянціне Вікенцьеўне натхнення і аптымізму ў працы. Дырэктарская пасада – справа не з лёгкіх. Але В.В.Понтус – з тых людзей, якія цяжкасцей не баяцца, а, наадварот, любяць іх пераадольваць. Матэматык па спецыяльнасці, яна ведае цану бліскуча праведзенаму уроку, калі настаўнік адчувае, што новую тэму зразумеў і засвоіў кожны яго вучань. Гэта менавіта яна аднойчы так артыстычна і даходліва патлумачыла класу тэарэму Піфагора, што дзяўчынкі ад задавальнення працэсам пазнання радасна ўсклікалі: "Клас!" І ўжо ніколі не забыцца ёй пра той шыкоўны букет з трыццаці свежых руж, якія аднойчы прыпаднеслі ёй яе выпускнікі. Пэўна, вось такія імгненні ды яшчэ мноства падобных і прыцягваюць нашых настаўнікаў да школы.

Якая яна, Валянціна Вікенцьеўна Понтус? Прывабная, артыстычная, разумная, мудрая. І самае галоўнае – любімая.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## Условия проведения открытого конкурса на создание учебников по социально-гуманитарным предметам для общеобразовательных школ Республики Беларусь в 2002 г.

1. Конкурс на создание учебников по социально–гуманитарным предметам проводится в целях обеспечения общеобразовательной школы стабильными учебниками высокого качества, подготовленными в соответствии с новыми образовательными стандартами, программами и педагогическими технологиями.

2. Конкурс на создание учебников для общеобразовательной школы по социально–гуманитарным предметам проводится Министерством образования Республики Беларусь в соответствии с поручением Президента Республики Беларусь Лукашенко А.Г. и является открытым.

3. Конкурсные работы могут представлять как отдельные авторы, так и авторские коллективы.

4. На конкурс принимаются планы–проспекты рукописей, аннотации будущих изданий, а также сами рукописи учебников, разработанные по программам, утвержденным Министерством образования Республики Беларусь.

5. Конкурс проводится по следующим социально–гуманитарным предметам:

Гісторыя Беларусі старажытных часоў. 4 клас.

Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі (VI – XV стст.). 5 клас

Гісторыя Беларусі (XVI – канец XVIII ст ст.). 6 клас.

Гісторыя Беларусі (з канца XVIII ст. да 1917 г.). 7 клас.

Гісторыя Беларусі з 1917 г. да 1945 г. 8 клас.

Гісторыя Беларусі з 1945 г. да нашых дзён. 9 клас.

Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да канца XVIII ст. 10 клас.

Гісторыя Беларусі (канец XVIII – XX ст.). 11 клас.

Человек. Общество. Государство. 8 класс.

Человек. Общество. Государство. 9 класс.

Человек. Общество. Государство. 10 класс.

Человек. Общество. Государство. 11 класс.

Беларуская літаратура. 9 клас.
Беларуская літаратура. 10 клас.
Беларуская літаратура. 11 клас.

Русская литература. 9 класс.
Русская литература. 10 класс.
Русская литература. 11 класс.

6. **Первый этап конкурса** проводится с 1 апреля по 15 мая 2002 года. На этом этапе рассматриваются планы–проспекты рукописей учебников и развернутые аннотации будущих изданий, в которых указываются принципы формирования содержания учебника и способы реализации основных дидактических функций издания, структура учебника с кратким описанием основных элементов издания (основного и дополнительных текстов, методического аппарата, иллюстративного материала).

7. По итогам первого этапа конкурса отбирается не более трех наиболее перспективных планов–проспектов рукописей по каждой дисциплине, авторы которых допускаются к участию во втором этапе конкурса.

8. **Второй этап конкурса** проводится с 15 мая 2002 года по 30 декабря 2002 года. На этом этапе рассматриваются рукописи учебников, подготовленные в соответствии с представленными планами–проспектами и на основе авторских концепций учебников, отраженных в аннотациях к будущим изданиям.

9. Для проведения конкурса Министерством образования Республики Беларусь создается Конкурсная комиссия из числа ведущих специалистов образования и науки с участием представителей Министерства образования.

10. Состав Конкурсной комиссии утверждается Министерством образования Республики Беларусь. Для оценки представленных планов–проспектов рукописей учебников и развернутых аннотаций будущих изданий Конкурсная комиссия на первом этапе конкурса может привлечь учебные заведения и учреждения образования, научно–исследовательские институты.

11. Обсуждение рукописей учебников в Конкурсной комиссии на втором этапе конкурса проводится на основе трех экспертных заключений (рецензий) и личного ознакомления членов комиссии с представленными рукописями. Для проведения экспертной оценки могут привлекаться ведущие специалисты учебных и научных учреждений, секций Научно–методического Совета Министерства образования.

12. Авторы и организации, выдвигающие на конкурс планы–проспекты и рукописи учебников и учебно–методических комплексов, подают заявку в Учреждение "Научно–методический центр учебной книги и средств обучения" Министерства образования Республики Беларусь (220013, г. Минск, ул. Б.Хмельницкого, 3).

13. Срок подачи заявок на участие в конкурсе, а также материалов на первый этап конкурса заканчивается **1 мая 2002 года**, представление рукописей на второй этап конкурса заканчивается **1 декабря 2002 г**.

14. Планы–проспекты, аннотации, а в дальнейшем рукописи учебников представляются в Учреждение "Научно–методический центр учебной книги и средств обучения" Министерства образования Республики Беларусь в трех экземплярах на русском или белорусском языке.

15. К представленным рукописям учебников прилагаются:

заявка на участие в конкурсе или письмо–представление;

сведения об авторах (авторском коллективе) рукописи учебника с указанием фамилии, имени, отчества, ученой степени и звания, специальности, места работы и должности, домашнего адреса, номера служебного и домашнего телефона;

материалы предварительного общественного обсуждения (выписка из протокола совещания, заседания кафедры, педагогического Совета) о выдвижении работы на конкурс в том случае, когда она выдвигается учреждением или организацией.

16. Рукописи должны быть отпечатаны на машинке (набраны на компьютере) со стандартным шрифтом через 2 интервала на одной стороне листа стандартного размера (28–30 строк на листе по 60–65 знаков в строке).

17. Подведение итогов второго этапа конкурса осуществляется Конкурсной комиссией в течение 1 месяца после окончательного срока представления рукописей.

18. По итогам каждого этапа конкурса его участникам в течение 2–х недель высылается соответствующая выписка решения Конкурсной комиссии.

19. Участникам второго этапа конкурса при необходимости предоставляется творческий отпуск с полным сохранением заработной платы по месту основной работы.

20. Финансирование организации конкурса осуществляется Министерством образования Республики Беларусь совместно со специальным фондом Президента Республики Беларусь по социальной поддержке одаренных учащихся и студентов (по согласованию).

21. Для поощрения участников конкурса предусмотрены поощрительные денежные премии и Дипломы Министерства образования Республики Беларусь.

22. Сведения о результатах конкурса публикуются Министерством образования Республики Беларусь в республиканской печати.

*“Настаўніцкая газета” ў гасціях у 41-й сярэдняй школы Мінска*

# Маленькая краіна, дзе запальваюцца зоркі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

## Маналог дырэктара

Я разумею, наша школа мае адну, вельмі значную перавагу. Яна – маленькая. Гэткая маленькая краіна. Я ведаю кожнага вучня ў твар. Гэта вам не паўтары тысячы



вучняў. Дарэчы, наша школа старэнькая. У наступным годзе адзначым юбілей, пяцідзесяцігоддзе. Мы займаемся ў дзве змены. У другую працуюць толькі тры класы пачатковай школы. Дзіця ў нашай школе перастае быць праблемным.

Уяўляеце такую сітуацыю? Раніца. Дзяжуру. Прайшло пятнаццаць хвілін урока. Бачу, на парозе школы паяўляецца вучань-пачатковец. Брудны. Нямыты. Без партфеля. А я добра ведаю яго і тое, у якіх умовах, у якой сям'і жыве гэты хлопчык. І я адчуваю радасць, што ён прыйшоў у школу, на ўрок. Да нас – у школу! Дома ён, на жаль, нікому не патрэбны. Мы ж вымылі яму рукі, заправілі кашулю, знайшлі ручку і сшытак і завялі ў клас. Змагла б я гэта зрабіць, каб у маёй школе вучылася больш тысячы вучняў? Безумоўна, не. Нашу школу на іншыя не мяняюць.

Цалкам не згодна з тымі, хто сцвярджае, што школа сёння дэградуе. Гэта не так! На мой погляд, школа – гэта якраз той, мабыць, адзіны астравок, які яшчэ зможа, дый і робіць гэта, ўратаваць духоўнасць нацыі, нашу моладзь.

Цудоўныя дзеці растуць нам на змену! Разумныя, дапытлівыя, інтэлектуалы. З імі толькі трэба працаваць! І любіць іх трэба! Наш 8 "В" – гэта ж цуд! Такія разумныя хлопчыкі! Вы б толькі ведалі! У нас на іх вялікія надзеі! Мы з імі працуем.

І вакол залатых медалёў, лічу, – надуманы, штучны ажыятаж. Таму я сёння з гонарам заяўляю – усе медалісты маёй школы свае веды пацвярджаюць і становяцца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў краіны, у прыватнасці большасць з іх абрала факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Што мяне асабіста, пытаецеся вы, трымае ў школе? Мяне, маіх калег, настаўнікаў, якімі я даражу і якіх шаную? Адказ – просты і ад душы, шчыры: усе мы займаемся справай, якая прыносіць нам задавальненне. Вось і ўсё.

## Ах, гэтыя матэматыкі

Здымак на памяць. Прыемна было назіраць за працэсам фатаграфавання. На групавым здымку той любімы дырэктарам школы 8 "В", ян надзея. Гэта – пераможцы гарадскіх і рэспубліканскіх алімпіяд па матэматыцы – Іван Блізнец, Аляксандр Галаўнёў, Уладзімір Ягораў, Андрэй Грыненка і Ігар Сіраж. І разам з імі іх любімыя настаўнікі – Валянцін Хаімавіч Сярэбраны і Барыс Барысавіч Камракоў, тыя, хто вучыць іх разумець і любіць матэматыку як навуку.

Яшчэ адна школьная зорка – Сяргей Маркоўскі. Вы бачыце яго на здымку! Згадзіцеся, які мужны і пільны погляд! Падумалася: магчыма, будучы нобелеўскі лаўрэат! Вось каб так і здарылася ў яго лёсе! Сяргей стаў шостым залатым медалістам за ўсю гісторыю ўдзелу зборнай Беларусі ў міжнароднай матэматычнай алімпіядзе ў Вашынгтоне (ЗША) у чэрвені мінулага года. А да гэтай залатой узнагароды Сяргей прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх рэспубліканскіх матэматычных алімпіядах. І заўсёды вяртаўся з узнагародамі. У скарбонцы яго узнагарод ёсць і бронзавы медаль, які юны матэматык прывёз з Сеула. Інтарэс і здольнасць да матэматыкі плюс працалюбівасць даюць магчымасць Сяргею пабачыць свет.

Пяць гадоў назад у гэтай школе былі адкрыты два профільныя фізіка-матэматычныя класы. За гэты час вучні заваявалі вялікую колькасць узнагарод – дыпломаў раённых, гарадскіх і рэспубліканскіх алімпіяд па матэматыцы. Прычым вучні гэтай школы, звычайнай, агульнаадукацыйнай, паспяхова спаборнічаюць у матэматычных алімпіядах з навучэнцамі ліцэяў і гімназій.

І перамагаюць! Факты – рэч упартая. На адкрытым турніры ліцэяў горада Мінска, у якім прымалі ўдзел каманды ліцэяў БДУ, ДБПА, БДУІР і сярэдняй школы №41, каманда школы заняла першае месца, заваяваўшы дванаццаць дыпломаў (з дваццаці двух), у тым ліку – усе першыя.

Сяргей Маркоўскі і Ільля Малахоўскі выйгралі І дыплом на Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі школьнікаў "БелЮніор 2000" (секцыя матэматыкі), а таксама прынялі ўдзел у сусветным аглядзе навуковай і інжынернай творчасці юных (Дэтройт, ЗША, май 2000 г.). Заваявалі бронзавы медаль у камандным праекце (удзельнічала 165 праектаў) і атрымалі прэмію Амерыканскага матэматычнага таварыства. Словам, школа "гучыць" на сусветным узроўні.

Па выніках мінскай гарадской алімпіяды па матэматыцы сярэдняя школа №41 ужо два гады запар (2001, 2002) займае першае месца.

– Патрабавальнасць і сумленная праца – адзіны сакрэт нашага поспеху, – гаворыць Барыс Барысавіч Камракоў, малады і абаяльны настаўнік, дацэнт факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ. І дадае: – З намі вучням няпроста.

І як тут не паверыць, калі вось такія вершы складаюць (і спяваюць на школьных вечарынах) пра сваіх настаўнікаў вучні фізіка-матэматычных класаў?

*Нагружать*
*программой нас*
*Стали почему-то.*
*Нынче в школе*
*физмат-класс –*
*Вроде института:*
*Камраков нам задаёт*
*С базисом задачи,*
*Сам Хаимович и тот*
*Над задачей плачет.*





Сёлета ўсе выпускнікі 11 "В" класа паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, у тым ліку дзевяць чалавек – на факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі. А праходны бал сёлета сюды быў высокі. Зараз гэтыя дзевяць чалавек вучацца ў адной групе. Ці не фантастыка гэта?

Трыццаць два гады – такі педагагічны стаж у Валянціна Хаімавіча Сярэбранага. У 41-й працуе пяць гадоў. Парадаксальную думку выказаў падчас нашай размовы гэты вопытны і мудры настаўнік матэматыкі. Ён лічыць, што дзеці ідуць у школу за любоўю, а не за ведамі. За любоўю настаўнікаў. Калі паміж вучнем і настаўнікам гэтай зваротнай сувязі няма – школа губляе свой сэнс. Гэта Валянцін Хаімавіч разам з вучнямі матэматычных класаў выпускае школьную газету "Клас!", а таксама гумарыстычнае выданне "Смешна сказаць". Гумар матэматыкам дапамагае. З гумарам жыць лягчэй! І на мае сур'ёзныя пытанні ён імкнуўся жартаваць!

– Перагружаны настаўнік. У сваім узросце я б мог выглядаць як агурочак, але калі б даваў па тры ўрокі ў дзень, а не па сем. А значыць, пра агурочак – забудзься! Я ведаю людзей, якія з задавальненнем працавалі б у школе, але з прычыны нізкай заработнай платы настаўнікаў займаюцца рэпетытарствам.

## Кветкі Аіды

Цікава, колькі казак напісаў Ханс Крысціян Андэрсен? Мы ведаем яго "Новае адзенне караля", "Снежную каралеву", "Брыдкае качаня", "Русалачку", "Стойкі алавяны салдацік", у якіх удала спалучаюцца рамантыка і рэалізм, фантазія і гумар, сатырычны пачатак з іроніяй. Вучаніца 9 "А" класа Насця Кавальчук вельмі любіць казкі гэтага славутага дацкага казачніка. За што? За шчырасць, чую яе адказ, у сваіх казках неадушаўлёныя прадметы ён ажыўляе, прымушае цябе задумацца над прыгожым і вечным. Прыгожае бачыць у простых рэчах.

– Па якой казцы ты даслала малюнак на конкурс у Данію?

– Па казцы "Кветкі Аіды". Я намалявала вялізнае прыгожае поле, засеянае рамонкамі на фоне вясёлкавага неба. А ўдалечыні – конік з возікам. І многа-многа рамонак!

Любімыя казкі Насці – "Стары дом", "Манетка", "Ліхтар ", "Як вецер перавесіў усе вывескі" і інш. Выяўленчым мастацтвам Насця Кавальчук пачала займацца з пятага класа. Яе малюнкі пастаянна экспануюцца на выставах у школе, раёне і горадзе. І вось – зноў поспех. Хутка Насця паедзе ў Данію. Школе – гонар і радасць.

***P.S.** У бліжэйшы час на старонках нашай газеты мы прапануем вашай увазе адкрыты урок па рускай літаратуры ў 10 класе настаўніцы сярэдняй школы №41 Наталлі Мікалаеўны Басіч.*

**Святлана БЕНЬ.**

НА ЗДЫМКАХ: Анастасія Кавальчук – вучаніца 9 "А" класа (стар. 1); Сяргей Маркоўскі мае залаты медаль; матэматыкі (у цэнтры – настаўнік В.Х.Сярэбраны); Таццяна Ільінічна Лях – завуч па вучэбна-выхаваўчай рабоце, В.В.Понтус – дырэктар сярэдняй школы №41, Н.М.Басіч – настаўніца рускай мовы і літаратуры.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# Матчыны ўзоры

## *У школе ўведзены спецыяльны курс па вывучэнню народнага ткацтва*

***Народнае мастацтва - жывая крыніца творчай актыўнасці мінулага і сучаснага, якая фарміруе сістэму каштоўнасцей, традыцый і ўяўленні народа, яго нацыянальны дух.***

У наш час, калі моц дэструктыўнай сацыяльнай энергіі становіцца ўсё больш відавочнай, неабходна глыбокае веданне і асэнсаванне роднай гісторыі, мастацкіх традыцый. Без гэтага нельга вырашыць жыццёва важныя грамадскія, палітычныя, эканамічныя пытанні. Культура і мастацтва - натхняльная сіла развіцця і прагрэсу. Недаацэнка гэтага прыводзіць да страты сваёй гістарычнай памяці, а значыць пазбаўляе народ будучыні.

Шлях адраджэння нацыянальных мастацкіх традыцый пралягае праз глыбокае іх вывучэнне.

На аснове сваіх шматгадовых назіранняў магу з упэўненасцю сказаць, што час, калі ткалі амаль у кожнай хаце, адышоў у вечнасць.

Зараз гэтым займаюцца адзінкі - часцей за ўсё жанчыны сталага ўзросту. Перарвана сувязь паміж пакаленнямі. Сучасная моладзь у большасці сваёй не ведае, як ткалі раней. Далёка не кожная бабуля гэтых дзяўчат сядзела за кроснамі.

Таму на першым годзе навучання адбываецца знаёмства з ткацкім станком, засвойваюцца асноўныя прынцыпы праектавання тканіны і яе выпрацоўкі. Навучэнцы знаёмяцца з асноўнымі відамі арнаментаў, іх знакавай сімволікай. А ў пачатку чэрвеня адбываецца вандроўка па аднаму з раёнаў Беларусі. Гэта мы называем этнаграфічнай экспедыцыяй.

Экспедыцыя - як састаўная частка творчага працэсу - дае імпульс для разумення неабходнасці зберажэння ткацтва як віду народнай творчасці.

Асноўная задача нашых экспедыцый у тым, каб навучэнцы адчулі подых часоў. Пабачыўшы на свае вочы прыгажосць посцілак і ручнікоў, якія сялянскія жанчыны дастаюць з куфраў альбо шафаў, маладыя людзі пачынаюць глыбей адчуваць прыгажосць такіх рэчаў. Гэта ўжо не проста жывапісная тканіна - гэта нешта жывое і значнае.

Часцей за ўсё мы сустракаем тых, хто проста захоўвае ўзоры ткацтва. Зрэдку нам вельмі шанцуе, і мы маем магчымасць пазнаёміцца з жанчынамі, якія калісьці самі ткалі - у Пухавіцкім, Старадарожскім і Слуцкім раёнах.

У вёсцы Крываносы Старадарожскага раёна мы пазнаёміліся з Евай Міхайлаўнай Дроб. Яна дазволіла нам сфатаграфаваць як свае вырабы, так і рэчы, вырабленыя маці яе мужа. У падарунак ад гэтай цудоўнай жанчыны мы атрымалі ручнік, якому амаль 50 гадоў, вытканы ён прыкладна ў 1956 годзе. Дарэчы, за год да нашай сустрэчы яе ўнучка Ірына Дроб скончыла нашую ж школу.

Яркім здабыткам нацыянальнай культуры Беларусі з'яўляецца народнае адзенне. У старажытныя часы, калі чалавек быў больш непасрэдна звязаны з прыродай, касцюм заключаў у сабе пэўныя рысы неабходнасці. Сфарміраванае ў выніку доўгіх і складаных працэсаў развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры, адзенне ў большай меры, чым іншыя рэчы са сферы побыту, адлюстроўвае этнічную спецыфіку беларусаў. Падчас экспедыцый нам не пашанцавала ў гэтым сэнсе. Але ж асобныя фрагменты нацыянальнага строю (фартух, намітку, спадніцу) мы ўсё ж мелі магчымасць убачыць і сфатаграфаваць.

У вёсцы Шапчыцы Варвара Кірылаўна Дамарад, 1910 года нараджэння, сфатаграфавалася ў андараку, які беражэ з дзявочай пары.



Ева Рыгораўна Сойка, жыхарка вёскі Глядавічы, паказала нам андарак, фартух, намітку, якія насіла яе маці 1887 года нараджэння. На працягу ўсяго часу знаходжання ў экспедыцыях вучні старанна вядуць дзённікі, у якія запісваюць свае назіранні і ўсё, што жанчыны ўспамінаюць, паведамляюць нам.

Экспедыцыйны матэрыял - гэта не змярцвелы пласт, а падмурак для працяглай работы. Таму пасля летніх вакацый з пачатку верасня распачынаецца праца па выніках вандровак. Вучні афармляюць фотаздымкі, робяць копіі найбольш прывабных узораў. Далей робяцца спробы вырабу гэтых узораў. Вучні дадаткова па літаратуры вывучаюць народныя строі. Вынікам гэтай працы стала невялікая калекцыя распрацаваных, вытканых і пашытых народных касцюмаў.

Падчас экспедыцый мы заўсёды наведваем музеі, архітэктурныя помнікі, знаёмімся з гісторыяй раёна.

Сабраць, зберагчы, перадаць нашчадкам хоць невялікую спадчыну - гэта асноўная задача нашай працы з вучнямі. Толькі пазнаёміўшыся з жывым матэрыялам, можна выклікаць у душы захапленне, зачараванне, глыбокую пашану перад глыбіннымі пластамі народнай культуры. І, як я лічу, вандроўкі якраз і садзейнічаюць гэтаму. Хочацца спадзявацца, што нашы дзяўчаты-навучэнкі змогуць стаць тым ланцужком, які звяжа мінулае і будучае.

**Наталля КАНАНОВІЧ,**
**настаўніца**
**сярэдняй школы №41**
**Мінска.**

НА ЗДЫМКУ: намеснік дырэктара па мастацкаму ўхілу Л.К.Рогава.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# *Хто скажа дзякуй трэнеру?*

***Цяпер, напэўна, цяжка знайсці месца, дзе б да дзяцей ставіліся з увагай і разуменнем, і ў той жа час заняткі з імі былі б арганізаваны на высокім прафесійным узроўні. І каб усё гэта было яшчэ і бясплатна. Адным з такіх месцаў з'яўляецца дзіцяча-юнацкі фізкультурна-спартыўны клуб "Дынама-Арсенал" (ДЮФСТ "Юны дынамавец"), створаны на базе сярэдняй школы №41 Мінска.***

Мінская абласная арганізацыя БФСТ "Дынама" "Юны дынамавец" з'яўляецца адной са старэйшых у нашай краіне. Створана яна была ў 1934 годзе на базе сярэдняй школы Маскоўскага раёна. Заснавальнікі - Міністэрства ўнутраных спраў, таварыства "Дынама" і Міністэрства адукацыі.

Ідэя стварэння ДЮФСК "Дынама-Арсенал" належыць былому начальніку ГУУС Мінгарвыканкама (цяпер - першаму намесніку Міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь), старшыні Мінскай абласной арганізацыі БФСТ "Дынама" генерал-маёру міліцыі Б.К.Тарлецкаму і дырэктару сярэдняй школы №41 Маскоўскага раёна Мінска В.В.Понтус. Сказана - зроблена. Так у 2000 годзе на базе сярэдняй школы №41 Мінска пры дапамозе цэнтра спецыяльнай падрыхтоўкі Мінскай абласной арганізацыі БФСТ "Дынама" былі створаны першыя секцыі каратэ. Кірую клубам я і адначасова ўзначальваю нацыянальную зборную каманду па каратэ.

Сёння ў клубе восем спартыўных секцый. Асноўны від спорту - каратэ (версія WKF, прызнаная Міжнародным Алімпійскім камітэтам). Працуюць секцыі футбола, настольнага тэніса і агульнай фізічнай падрыхтоўкі. У клубе займаюцца 154 чалавекі, заняткі бясплатныя.

Трэніруюць дзяцей і падлеткаў выкладчыкі фізічнай культуры, члены нацыянальнай зборнай каманды па каратэ А.А.Лобан (майстар спорту міжнароднага класа), І.П.Аргер (майстар спорту), В.Н.Рабушка (майстар спорту), Н.В.Андрыевіч (кандыдат у майстры спорту).

Галоўная мэта - даць школьнікам цікавы і карысны занятак, пазнаёміць з прынцыпамі здаровага ладу жыцця, далучыць дзяцей з маламаёмных і няпоўных сем'яў, а таксама цяжкіх падлеткаў да здаровага спартыўнага асяроддзя.

Сёння ў клубе паспяхова развіваюцца тры асноўныя напрамкі работы: масавы спорт, спорт вышэйшых дасягненняў і прафілактыка правапарушэнняў сярод непаўналетніх.

Што датычыцца масавага віду спорту, дык набор у секцыі праводзіцца без так званага "спартыўна-перспектыўнага адбору". Гэта значыць, прымаюцца ўсе школьнікі, якія жадаюць займацца, прайшлі медыцынскі агляд і не маюць процiпаказанняў па стану здароўя. Асноўны кантынгент тых, хто прыходзіць, - вучні сярэдняй школы №41.

З мэтай папярэджання правапарушэнняў сярод непаўналетніх адміністрацыя школы сумесна з Мінскай абласной арганізацыяй БФСТ "Дынама" і Службай прафілактыкі ГУУС Мінгарвыканкама і інспекцыяй па справах непаўналетніх Маскоўскага РУУС Мінска рэалізуюць комплекс мер па далучэнню дзяцей і падлеткаў, якія знаходзяцца на ўнутрышкольным уліку, на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх і адносяцца да групы рызыкі, да сістэматычных заняткаў у спартыўных секцыях клуба.

Клуб арганізуе і праводзіць спартыўна-масавыя і культурныя мерапрыемствы: сустрэчы з супрацоўнікамі і ветэранамі праваахоўных органаў, вядучымі спартсменамі нашай краіны і Мінскай абласной арганізацыі БФСТ "Дынама"; гутаркі, лекцыі, вiктарыны; паходы выхаднога дня; экскурсіі і наведванне воінскіх часцей, гарадскія спартыўна-масавыя мерапрыемствы; спартыўныя спаборніцтвы.

Сёння ў спартыўных секцыях 41-й школы займаецца каля дзесяці дзяцей і падлеткаў, якія адносяцца да катэгорыі цяжкіх. Многія з выхаванцаў клуба, якія дабіліся высокіх спартыўных дасягненняў, былі ў ліку праблемных, але дзякуючы спорту атрымалі пуцёўку ў жыццё і паспяхова абараняюць гонар краіны на спартыўных арэнах.

Лепшыя выхаванцы клуба пасля заканчэння школы атрымалі станоўчыя рэкамендацыі Мінскай абласной арганізацыі БФСТ "Дынама", Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь, РУУС па месцы жыхарства і паступілі ў БДУ, Акадэмію МУС, Акадэмію фізвыхавання, праходзяць абавязковую службу ў войсках МУС (спецназ), пагранічных войсках.

У школе арганізаваны і функцыянуе музей "Юны дынамавец", у якім частка экспазіцыі прысвечана дасягненням спартсменаў ДЮФСК "Дынама-Арсенал". У перспектыве плануецца адкрыццё фізкультурна-аздараўленчага класа.

Безумоўна, стварэнне падобных клубаў прывабіць больш дзяцей і падлеткаў у спартыўныя секцыі, а значыць дапаможа вырашыць праблему вольнага часу. Зразумела, востра паўстане пытанне аб трэнерскім саставе. Бо трэнеру-выкладчыку неабходна мець не толькі пэўныя навыкі работы з дзецьмі і падлеткамі - яго сэрца павінна быць адкрыта для іх. Задача для выкладчыка не абмяжоўваецца правядзеннем заняткаў па таму або іншаму віду спорту - трэнер павінен быць гатовым да таго, што школьнікам можа спатрэбіцца дапамога ў вырашэнні іх шматлікіх штодзённых праблем і пытанняў. Вядома, 41-й школе ў гэтым плане пашанцавала! Спартыўныя секцыі клуба сталі проста адной вялікай сям'ёй.

Абмежаванасці ў сродках на забеспячэнне работы клуба не існуе - іх проста няма. "Дынама" ніякіх сродкаў не выдзяляе, бо фінансаванне падобных клубаў не прадугледжана, нягледзячы на паважаны ўзрост арганізацыі "Юны дынамавец", па традыцыі таварыства. Дапамога спонсараў - былі б гэтыя спонсары. Зрабіць заняткі платнымі - дзеці будуць бадзяцца па вуліцах і спасцігаць азы крыміналу. Адсутнасць фінансавання перашкаджае якаснай рабоце клуба. Гэта разумеюць і трэнеры, якія працуюць бясплатна і нават ужо забыліся, што такое вечар, праведзены ў сям'і. Разумеюць гэта і бацькі дзяцей, якія дапамагаюць рамантаваць спартыўную залу і прыкметна састарэлую матэрыяльную базу клуба. Разумее гэта і адміністрацыя школы ў асобе мудрага дырэктара, які пастаянна шукае хоць якія-небудзь магчымасці для таго, каб дзеці змаглі знайсці сабе ў школе занятак па душы. Пэўную дапамогу ў забеспячэнні вучэбна-трэніровачнага працэсу аказвае Беларуская федэрацыя каратэ. Нізкі вам паклон, Людзі!

Хочацца падзякаваць усім, без каго адкрыццё і функцыянаванне спартыўных секцый клуба "Дынама-Арсенал" былі б проста немагчымымі. Гэта першы намеснік Міністра ўнутраных спраў Беларусі генерал-маёр міліцыі Б.К.Тарлецкі, дырэктар сярэдняй школы №41 Мінска В.В.Понтус, намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама палкоўнік міліцыі В.В.Жыбуртовіч, намеснік старшыні Мінскай абласной арганізацыі БФСТ "Дынама" палкоўнік міліцыі В.В.Пляшкевіч, Беларуская федэрацыя каратэ ў асобе генеральнага сакратара Д.В.Бурынскага. І, вядома, вялікі дзякуй тым, хто непасрэдна выводзіць малышоў і падлеткаў "у людзі" - В.Н.Рабушка, І.П.Аргер, А.А.Лобану, Н.В.Андрыевічу.

**Аляксандр МУДРАЦОЎ,**
**галоўны трэнер нацыянальнай зборнай каманды па каратэ,**
**інспектар-метадыст ЦСП Мінскай абласной арганізацыі БФСТ "Дынама", старшы лейтэнант міліцыі.**

Па праграме "Пралеска"

# Трывалы грунт традыцый і фальклору

**Сёння навучанне дашкольнікаў роднай мове ажыццяўляецца ў спецыфічнай сітуацыі, якую можна ахарактарызаваць як руска-беларускае блізкароднаснае двухмоўе. Для большасці дашкольнікаў, асабліва ў горадзе, першай моваю, якую яны чуюць ад бацькоў, на якой вучацца размаўляць з малаенства, з'яўляецца руская. Аднак сярод дашкольнікаў ёсць і такія дзеці, у сем'ях якіх надаецца першапачатковая ўвага роднай беларускай мове.**

Невырашальнай праблемы ў рэспубліцы ва ўладкаванні дзяцей у беларускамоўныя групы ці садкі не існуе. Можа, толькі тэрытарыяльна бацькам не даспадобы прапанаванае месца, якое знаходзіцца далекавата ад дому. Па стану на 1 сакавіка бягучага года ў рэспубліцы 42,1 працэнта дашкольных установ вядуць выхаваўча-адукацыйны працэс на беларускай мове. З агульнай колькасці дзяцей, якія наведваюць дашкольныя ўстановы, 17 працэнтаў выхоўваецца па-беларуску.

У сістэме ведаў, якія прадугледжаны базіснай нацыянальнай праграмай "Пралеска", вялікае месца адведзена далучэнню дзяцей да агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей культуры, забеспячэнню цеснай узаемасувязі выхаваўчага працэсу з гуманістычнымі традыцыямі народнай педагогікі, фальклорам, нацыянальным мастацтвам.

Праграмай выхавання і навучання ў дашкольнай установе запланавана знаёмства дзяцей з народным тэатрам-батлейкай. Выхавацель расчыняе ім дзверы ў свет мастацкай літаратуры. Далучаючыся да ўдзелу ў гульнях-пастаноўках паводле народных казак, аўтарскіх апавяданняў, вершаў, да рухальных гульняў з дыялогамі, дашкалята вучацца эмацыянальна, лагічна пераказваць, чытаць напамяць вершы, лічылкі, фальклорныя творы, што пры падтрымцы педагога спрыяе і развіццю ўласнай творчасці выхаванцаў.

У сувязі з шэрагам узроставых, псіхалагічных асаблівасцей дзяцей (актыўная памяць, лёгкасць фарміравання станоўчай матывацыі маўленчай дзейнасці) гэты перыяд - найбольш спрыяльны для развіцця маўлення. Работу ў гэтым напрамку дашкольныя ўстановы рэспублікі праводзяць на аснове навукова-выверанай метадычнай сістэмы, якую распрацавала вядомы вучоны, доктар педагагічных навук І.С.Стражынская ў сваім дапаможніку "Методыка развіцця роднага маўлення".

Сувязь з іншымі прыватнымі методыкамі - фарміраванне матэматычных уяўленняў, фізічнае выхаванне, выяўленчая дзейнасць - і пераемнасць у рабоце дзіцячага садка і школы пры гэтым забяспечваюцца.

Дзякуючы плённай працы таленавітых педагогаў і вучоных нацыянальны аспект у дашкольным выхаванні захоўваецца.

**Валянціна ТУКАЧ,
вядучы інспектар
упраўлення
дашкольнага выхавання
Міністэрства адукацыі.**

# Чароўны ключык да сакрэтаў роднага слова

**Што адчувае маленькае дзіця пры слове "сакрэт"? Загадкавасць і зацікаўленасць зорачкамі ўспыхваюць у яго вочках. А калі адкрываюцца таямніцы роднага слова, то гэта не толькі цікава, але і карысна. У Брэсцкай вобласці працуюць 252 беларускамоўныя дашкольныя ўстановы (41,7 працэнта ад агульнай колькасці дзіцячых садкоў), а значыць магчымасць атрымліваць выхаванне на роднай мове маюць 9415 дзяцей.**

Авалоданне імі беларускай мовай залежыць ад створанага дарослымі моўнага асяроддзя, ад апоры на беларускую літаратуру. Менавіта такое асяроддзе імкнуцца стварыць для дзяцей педагогі ясляў-садоў Баранавіцкага, Пінскага, Пружанскага раёнаў.

Педагагічная праца дашкольных устаноў вёсак Лінава, Шані, Храва, Крыніца, Навасёлкаўскай школы-сада Пружанскага раёна, вёсак Сеўрукі, Арабоўшчына, Новая Мыш Баранавіцкага раёна накіравана на засваенне моўных норм, набыццё слоўнікавага запасу, выхаванне цікавасці да вобразнага слова, твораў мастацтва, на знаёмства з гісторыяй і побытам народа.

У гэтых дзіцячых садках праводзяцца гульні, заняткі, святы, дзе мінуўшчына Беларусі пераплятаецца з сучаснасцю, гучыць музыка. Практыкуецца стварэнне пастаянных і часовых этнаграфічных куткоў, выставак твораў народных умельцаў, старадаўніх прадметаў, посуду.

Назапашаны вопыт правядзення беларускіх святаў: "Каляды", "Купалле", "Гуканне вясны", "Мая Радзіма Беларусь", "Восенькі кірмаш".

Цікава прайшла арганізаваная педагогамі Крыніцкага дзіцячага сада гульня-конкурс "Шчаслівая зорачка", дзе каманды дзяцей з бацькамі спаборнічалі, хто лепш ведае абрады, святы, свой радавод, назвы адзення, прадметы хатняга ужытку, а таксама спявалі, малявалі.

Дзеці, якія выхоўваюцца ў дашкольных установах Пружанскага раёна, наведваюць школьныя этнаграфічныя музеі, музей імя Міколы Засіма, дзе змешчаны багаты гісторыка краязнаўчы матэрыял, прысвечаны знакамітым землякам раёна М.Засіму і Рыгору Шырму. У Баранавіцкім раёне створаны музей Паўлюка Багрыма, дом-музей Адама Міцкевіча ў вёсцы Завоссе.

Беларуская мова на Піншчыне - гэта мова Якуба Коласа і Яўгеніі Янішчыц, якія вельмі нядоўга жылі і працавалі ў гэтых мясцінах, але ў сваіх творах вельмі яскрава апісвалі побыт і традыцыі палешукоў, прыгажосць гэтага цудоўнага краю.

Навучыць паважаць сваю мову, культуру - адна з галоўных задач дашкольных устаноў Пінскага раёна. Напрацаваны багаты вопыт работы ў Чукаўскім, Пінкавіцкім, Плешчыцкім, Мерчыцкім, Бярозавіцкім, Парахонскім дзіцячых садках.

Увайшлі ў звычай штодзённыя беларускамоўныя заняткі з дзецьмі. Інтэр'ер групавых пакояў упрыгожваюць беларускія ручнікі, сурвэткі, вырабы з саломкі, ільну.

У Парахонскім дзіцячым садзе абсталявана беларуская хата, у якой размешчаны прадметы побыту, вырабы дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва. Памяшканне выкарыстоўваецца для правядзення святаў, гульняў. Працуюць гурткі па выяўленчай і музычна-фальклорнай дзейнасці. Усе мерапрыемствы праходзяць з удзелам бацькоў.

Чароўным ключыкам, што адчыняе сакрэты знаёмства з родным словам, паэзіяй, пра якую выхаванцы вучацца размаўляць на беларускай мове, валодае выхавальніца Гарадзішчанскага дзіцячага садка Ала Васільеўна Чэчун, вершы, лічылкі, казкі якой шырока выкарыстоўваюцца ў садках Пінскага раёна.

**Людміла МУРАШКА,
вядучы спецыяліст
упраўлення адукацыі
Брэсцкай вобласці.**

Верныя сабе

# "Вобразная, вольная, пявучая - мова беларуская мая..."

***Гэтыя словы з верша Пімена Панчанкі сталі дэвізам работы дзіцячага ясляў-садка №72 Віцебска, які ўзначальвае натхнёны педагог, адданая справе і дзецям, прыгожая жанчына - Ева Аляксееўна Цалка. Яшчэ ў 1991 годзе на педсавеце калектыў дзіцячай установы прыняў рашэнне, каб у садзе гучала родная мова, бо не маем права забываць нашы карані, нашы традыцыі.***

Не так мала часу прайшло з той пары, многа было супрацьлеглых думак і меркаванняў. Але педагогі засталіся вернымі свайму рашэнню. Адзін з галоўных напрамкаў работы - фарміраванне ў дзяцей пачуцця нацыянальнай самасвядомасці, этнічнай прыналежнасці, выхаванне любові да роднай мовы, гонару за яе.

Гэта работа праводзіцца і на занятках, і ў паўсядзённым жыцці. Заслухаешся, як размаўляюць з дзеткамі Ніна Рыгораўна Навуменка, Людміла Мікалаеўна Дзмітровіч, Алена Васільеўна Хайчанка, Наталля Віктараўна Булыга і так ці не кожны выхавацель. А колькі свят, забаў праводзяць з дзецьмі музычныя кіраўнікі Наталля Уладзіміраўна Кузняцова, Александрына Аляксандраўна Ясючэнка! Малеча ведае, што нацыянальныя святы - гэта святы нашых бабуль.

А яшчэ ў садку з задавальненнем гуляюць у беларускія гульні.

Уся метадычная работа з кадрамі таксама вядзецца па-беларуску.

А як жа да гэтага адносяцца бацькі?

На базе сада створаны 4 санаторныя групы для дзяцей, якія часта і працягла хварэюць, працуюць гурткі па плаванню, гімнастыцы, выяўленчаму мастацтву, функцыянуюць фітабар, плавальны і сухі басейны. І калі гэтая справа, упрыгожаная роднай мовай, ідзе наперад - у бацькоў пытанняў не ўзнікае.

Вось і зараз увесь калектыў рыхтуецца да педсавета і справавой гульні "Беларусь мая сінявокая". А ў дзяцей і бацькоў напярэдадні свята - "Гуканне вясны".

**Алена ЛЯДВІНА,
інспектар
па дашкольнаму
выхаванню
Кастрычніцкага аддзела
адукацыі Віцебска.**

Эксперыментальная пляцоўка

# Што такое "Этнасад"?

***Здаўна людзі з асаблівай увагай ставіліся да выхавання сваіх нашчадкаў. Менавіта таму народная педагогіка мае такія глыбокія, старадаўнія карані. У Японіі, напрыклад, насуперак сучаснай тэорыі, што дзіця можна да пяці гадоў выхоўваць, а пасля ўжо толькі перавыхоўваць, якраз да гэтага ўзросту малому дазваляецца ўсё, і толькі пасля пачынаецца непасрэдна працэс выхавання. А ў старажытнай Спарце маленькіх хлопчыкаў, практычна, пакідалі на выжыванне: яны павінны былі самі здабываць сабе ежу, выконваць цяжкія фізічныя практыкаванні, спаць на голых камянях. Але з іх потым выраслалі выдатныя воіны, здольныя без нараканняў пераносіць любыя цяжкасці ратнай справы.***

Нашыя ж продкі жадалі бачыць сваіх дзяцей людзьмі мужнымі, але не жорсткімі, моцнымі, але чуллівымі да чалавечай пяшчоты і душэўнай прыгажосці, справядлівымі, працавітымі Памятаеце, у рамане Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" апісваецца традыцыя дзядзькавання. Мелі рацыю беларусы: толькі праз далучэнне да народных абрадаў, фальклору, мовы, да роднай прыроды можна выхаваць такога чалавека.

Што ж тут двойчы вынаходзіць веласіпед! Самым правільным шляхам пайшлі стваральнікі эксперыментальнай пляцоўкі "Этнасад". Актуальнасць эксперыменту (хаця ці можна так назваць вопыт, назапашаны гадамі?) зыходзіць з сапраўды фенаменальнай сітуацыі - амаль поўнай адсутнасці ў рэспубліцы дашкольных устаноў, якія б працавалі на аснове народных традыцый і культуры, шырока прымяняючы сучасныя прагрэсіўныя тэхналогіі адукацыі. Адкрыццё "Этнасада" прадугледжана "Праграмай дадатковых мер па пашырэнню сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". На думку кіраўнікоў праекта Алеся Юр'евіча Лозкі і Дзіны Мікалаеўны Дубініной, "Этнасад" дазволіць стварыць такую мадэль дашкольнай установы, якая па сваім змесце будзе па-сапраўднаму нацыянальнай і стане пераходным звяном да "Этнашколы".

Сёння названая эксперыментальная пляцоўка дзейнічае на базе дзіцячых садкоў №195 і №187 Мінска. У апошнім мне давялося пабываць. 187-ы садок абраны для эксперыменту нездарма: ужо дванаццаць гадоў тут выхоўваюць дзяцей толькі на беларускай мове, за гэты час назапашана шмат метадычнага матэрыялу. Арганізацыя навучання і выхавання прапаноўваецца праектам у форме дашкольнага цэнтра развіцця асобы з дадатковымі гурткамі і студыямі. Таму найбольшы ўхіл у дзіцячым садку робіцца на знаёмства з вуснай народнай творчасцю і традыцыйным ужытковым мастацтвам, з народнай харэаграфіяй і гульнямі, з фальклорнымі спевамі і музыкай, з лялечным тэатрам - на выкарыстанне ўсёй гэтай багатай спадчыны. Тут працуе гурток "Народныя промыслы" пад кіраўніцтвам Наталлі Валер'еўны Бусловіч. І не дзіўна, што пакоі і калідоры садка ўпрыгожаны выцінанкамі, вырабамі з гліны, аплікацыямі і пляценнем з саломкі. Маленькія выхаванцы з задавальненнем вучацца складаць узоры з элементаў беларускага нацыянальнага арнаменту. А яшчэ ў дашкольнай установе дзейнічае міні-музей этнаграфіі. Гісторыя яго стварэння - не зусім звычайная. Педагагічны калектыў садка часта ўспамінае, як "калясілі" па вёсках у пошуках экспанатаў: кашуль, гарлачыкаў, пралак... Дапамаглі бацькі і, вядома, бабулі. Адна з іх цяпер спецыяльна для музея вышывае нацыянальны ручнік.

Літаратурныя вечарыны, прысвечаныя ўгодкам знакамітых пісьменнікаў, экскурсіі ў музеі, сустрэчы з сучаснымі літаратурнымі творцамі - з'ява ў садку нярэдкая. Пабывалі ўжо ў гасцях у тутэйшых выхаванцаў Васіль Жуковіч, Ніна Галіноўская, запрашалі неяк і калектыў часопіса "Вясёлка"...

"Галоўнае, што ўсе сустрэчы, мерапрыемствы і ўзаеміны паміж педагагічным калектывам і дзецьмі адбываюцца на беларускай мове, - гаворыць выхавальніца Валянціна Мікалаеўна Мартынава. - Падзякаваць тут трэба і бацькам. Яны не толькі падтрымліваюць нас ва ўсім, але і самі стараюцца размаўляць з дзецьмі па-беларуску. І мы з задавальненнем назіраем, як яны вітаюцца або развітваюцца на роднай мове".

Цікава, што шматлікія каляндарна-абрадавыя святы, ці то "Калядкі", ці то "Дзяды", наладжваюцца ў 187-м садзе па ўласных сцэнарыях, распрацаваных сваімі ж спецыялістамі, загадчыцай садка Таццянай Міхайлаўнай Юрчык, музычным кіраўніком Кацярынай Аляксееўнай Турлапавай і іншымі. Дзякуючы намаганням Кацярыны Аляксееўны ў кожнай з груп дашкольнай установы ёсць дзіцячы аркестр. З задавальненнем выконваюць дзеткі розныя папеўкі на святах, а таксама танцуюць беларускія танцы. Вы толькі спытайцеся: "А які самы любімы?" "Весялуха!", "Трасуха!", "Полька беларуская..." - пачуеце ў адказ. Маюць магчымасць паспрабаваць сябе выхаванцы і ў якасці акцёраў тэатра-батлейкі. А яшчэ спяваюць у дзіцячым садку оперы. Так, так. вы не памыліліся, менавіта оперы. Алена Раманаўна Рэмізоўская, аўтар методыкі музычнага выхавання для дашкольных устаноў, сама, будучы кампазітарам, напісала некалькі дзіцячых оперных твораў: "Сарока-белабока", "Калабок", "Муха-цакатуха"... Па просьбе педагогаў дзіцячага садка №187 паэтка Людміла Забалоцкая нават зрабіла пераклад лібрэта з рускай мовы на беларускую. Так што, як бачыце, працуюць тут людзі з душой. Мабыць, таму жанчыны, якія раней прыводзілі ў садок сваіх дзяцей, цяпер сюды ж прыводзяць унукаў.

Як пазначана ў праекце эксперыменту, у далейшым у "Этнасадзе" плануецца выкарыстоўваць сучасныя прагрэсіўныя тэхналогіі: камп'ютэрызацыю, вывучэнне замежных моў і інш. Дарэчы, у 187-м садку ўжо ўведзена ў працэс выхавання Мантэсоры-педагогіка. Спецыялісты, якія ўдзельнічаюць у эксперыменце, шукаюць розныя шляхі выкарыстання новых міжнародных педагагічных тэхналогій у беларускамоўным асяроддзі.

Такім чынам, звычайны дзіцячы садок павінен ператварыцца ў навукова-метадычны і культурна-педагагічны цэнтр, у якім дзеці будуць выхоўвацца на лепшых нацыянальных традыцыях.

**Наталля АЛЁХІНА.**

***Дазвольце пазнаёміць: Ружана, Барбара, Тамаш, Марцін, дзве Адэлі, Аліна, Ян-Дамінік, Ганна, Казімір, Глеб, Назар, Дамініка, Алег, Уладок, Яна, Стэфан, Злата, Ягор... Вы здзіўленыя? Вы думаеце, многія гэтыя імёны састарэлі? Не. Іх уладальнікам ад 3 да 5 гадоў. А сустрэліся яны ў беларускай групе мінскага садка №314, што непадалёк ад Камароўкі. Яны выдатна ведаюць, што іх краіна называецца Беларусь, яны беларусы, а іх мова - беларуская.***

Стварыць групу аказалася надзіва проста. Дастаткова было трох неабыякавых мам і адной зацікаўленай загадчыцы. Першыя шукалі дзетак для садка (часам знаёміліся проста на вуліцы), а загадчыца, Раіса Іосіфаўна Слясарчык, узяла потым групу пад сваю апеку, стала там частай госцяй і дарадчыцай.

Вядома, праблем хапае. Складана, напрыклад, знайсці беларускамоўных выхавацеляў, нянек. Ратуюць мамы (самі ідуць працаваць у садок). Дзякуючы бацькам малеча 314-га садка мае яркія й карысныя цацкі, але вырашыць усе грашовыя пытанні за кошт бацькоў немагчыма, а дзяржава выдзяляе мала сродкаў.



Бацькоўскі погляд

# Садок з відам на Беларусь

Здараецца, паміж бацькамі ўзнікаюць сапраўдныя філалагічныя спрэчкі: як правільней казаць тое або іншае слоўца па-беларуску. Паміж дзяцей такіх спрэчак няма. Хаця й не ўсе з беларускамоўных сем'яў, яны цудоўна разумеюць адзін аднаго, усур'ёз абмяркоўваючы, хто з кім ажэніцца - апасля і хто да каго паедзе ў госці - сёння. Так, многія з іх сябруюць па-за садком, сустракаюцца на канцэртах, ездзяць на гарбату (часам на іншы канец горада). А ў садку яны гуляюць пад каштанамі, дзе на альтанцы намаляваны рыцар-дундыш на дэльтаплане, а на старым гаражы, што заходзіць на пляцоўку, - замак. (Гэта роспісы мастака Алеся Пушкіна).

Малыя растуць. І вось ужо на базе 23-й школы ствараецца беларуская гімназія - для іх? Кім стануць гэтыя дзеці з прыгожымі імёнамі (а некаторыя і з гучнымі прозвішчамі)? Можа, варта запомніць іх зараз?!

**Крысціна ПУЧЫНСКАЯ,
мама Барбаркі
Пучынскай,
выхаванкі дзіцячага
садка №314 Мінска.**



**Фота Ю.БОНДАРАВА.**

Факт і каментарый

# Навапалацкія метамарфозы

***З 1 сакавіка дашкольныя ўстановы Навапалацка перайшлі на новы рэжым работы: паводле рашэння гарадскога выканаўчага камітэта, час работы дзіцячых садоў скараціўся да 10,5 гадзіны. Згодна з гэтым змяненне штатнага раскладу ў многіх дашкольных установах горада - мера, выкліканая пошукам шляхоў эканоміі сродкаў мясцовага бюджэту.***

Шматлікія праверкі паказалі, што 12-гадзінны рэжым работы дзіцячых садоў практычна нідзе не выконваецца, і пасля 17 гадзін у садках, як правіла, няма ніводнага дзіцяці. Выхавальнік да 19 гадзін знаходзіцца амаль што адзін. З гэтай прычыны і былі прыняты падобныя меры.

Як сцвярджаюць спецыялісты гарадскога аддзела адукацыі, падобнае нававядзенне ніяк не паўплывае на рэжым харчавання і сну дзяцей - як і раней, рэжым будзе адпавядаць усім медыцынскім патрабаванням. Для дашкольнікаў, якіх бацькі забіраюць каля 19 гадзін, будуць створаны так званыя групы прадоўжанага дня. Графік работы такіх груп будуць вызначаць самі ўстановы.

Змяненні ў працы дзіцячых садоў прывядуць да скарачэння штату работнікаў. Многім давядзецца пагаджацца працаваць на 0,75 стаўкі. Па словах загадчыцы аддзела адукацыі і аддзела па справах моладзі Навапалацкага выканкама Святланы Лазарэнка, падобнае скарачэнне ідзе ўжо не першы год.

Як гэта ні сумна, але трэба прызнаць, што з кожным годам дзяцей нараджаецца ўсё менш. У 1999 годзе ў горадзе быў зачынены дзіцячы сад №12, а ў 2001 - дзіцячы сад №14 (праўда, там цяпер размяшчаецца дзіцячы сацыяльны прытулак). У дзіцячым садзе №24 удалося захаваць толькі тры групы. Работнікі гарадскога аддзела адукацыі падлічылі, што гэтая негатыўная тэндэнцыя закране сёлета не толькі выхавальнікаў дашкольных устаноў, але і настаўнікаў пачатковай школы.

**Вольга МІНЯНКОВА.**

# Рашэнне на карысць дзяцей

***Сітуацыя, якая склалася ў Навапалацку, хвалюе і мясцовых педагогаў, і бацькоў. Па каментарый мы звярнуліся да начальніка ўпраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Тамары Мацвееўны Карасцялёвай. Яе тлумачэнні былі наступнымі.***

Згодна з нарматыўна-прававой базай Рэспублікі Беларусь, дашкольныя ўстановы, зыходзячы з інтарэсаў і патрабаванняў бацькоў, а таксама рэжыму працы разнастайных прадпрыемстваў і арганізацый, арыентаваны на працоўны дзень ад 9 да 24 гадзін. У апошні час (з 1993 года) пачаў развівацца іншы, больш гнуткі рэжым працы дашкольных устаноў: бацькі могуць прывесці сваё дзіця нават на 1-5 гадзін, прычым за перыяд такога кароткачасовага знаходжання дзеці маюць магчымасць атрымліваць той набор адукацыйных паслуг, які неабходны для іх паўнацэннага і гарманічнага развіцця.

Сітуацыя, што склалася ў Навапалацку, мне асабіста гаворыць аб недастатковым вывучэнні попыту бацькоў на адпаведныя паслугі дашкольных устаноў. Ды і проста не можа быць, каб усе прадпрыемствы і арганізацыі, на якіх задзейнічаны дарослыя, працавалі да паловы пятай або да пяці гадзін. Вядома, увядзенне адзіначасовага рэжыму не ўсім прыйдзецца даспадобы. Як па-іншаму падысці да вырашэння гэтай праблемы? Перш за ўсё трэба, каб спецыялісты выканаўчага камітэта Навапалацка больш поўна ўявілі становішча, а іменна, якая колькасць бацькоў зацікаўлена ў такім раскладзе. Я ўпэўнена, што іх не так ужо і шмат. Напрыклад, даныя ўпраўлення дашкольнага выхавання Міністэрства адукацыі сведчаць аб тым, што палова (50-52 працэнты) мае патрэбу ў 12-гадзіннай працы дашкольных устаноў.

Меры, што прымаюцца ў Навапалацку, абумоўлены сённяшнім фінансавым станам Пры 10,5-гадзінным працоўным дні змяняецца кратнасць харчавання - замест чатырох разоў у дзень дзеці харчуюцца тры разы. Гэта значыць, што вячэраць дашкольнікі павінны дома. А ці ўсе сем'і могуць сёння вячэру забяспечыць? На жаль, ёсць на гэтае пытанне і адмоўныя адказы. Часта можна назіраць, як бацькі чакаюць, пакуль іх дзеці павячэраюць, і толькі потым забіраюць дадому, тым больш, што 60 працэнтаў платы ад харчавання выкладваецца менавіта з бацькоўскай кішэні. Усё гэта гаворыць аб тым, што пры прыняцці рашэння становішча ў сям'і таксама не было прынята пад увагу. Інтарэсы дзяцей, а таксама педагогаў дашкольных устаноў застаюцца ўбаку.

Што датычыцца скарачэння спецыялістаў і закрыцця садкоў, якія тлумачацца паніжэннем нараджальнасці, дык тут ёсць выдатны варыянт вырашэння праблемы. Гэта - стварэнне рознаўзроставых груп. Калі не хапае дзяцей аднаго ўзросту, каб скласці групу, дык нішто не перашкаджае нам стварыць яе з дашкольнікаў рознага ўзросту. Такі варыянт бачыцца магчымым яшчэ і таму, што норма напаўняльнасці груп - дванаццаць чалавек, у той час як мы маем у сярэднім дваццаць. Пры падобным падыходзе ўсё змяняецца. І дзецям больш зручна: адаптацыя да садка праходзіць лепш, калі побач знаходзіцца старэйшы брацік, сястрычка, сябра. І дзякуючы вырашэнню праблемы напаўняльнасці груп мы атрымоўваем магчымасць захаваць кадры і дзіцячыя садкі. Напрыклад, у Пінскім, Аршанскім, Баранавіцкім, Асіповіцкім раёнах ужо некалькі гадоў практыкуецца такая форма працы. І ніякіх пытанняў не ўзнікае. У такім выпадку можна стварыць нават іншыя перспектыўныя тыпы дашкольных устаноў, такія, як школа-дзіцячы садок.

Яшчэ адзін варыянт, які чамусьці застаўся па-за ўвагай Навапалацкага гарвыканкама, - дыферэнцыяцыя садкоў па часавым рэжыме. У гэтым нашмат больш сэнсу, чым у стварэнні груп падоўжанага дня, дарэчы, правільней будзе назваць іх вячэрнімі. Пажадана, каб бацькі не спехам забіралі сваё дзіця з дашкольнай установы, а мелі магчымасць пагутарыць са спецыялістамі, даведацца аб занятках і поспехах дзіцяці. Але тут узнікае яшчэ адна задача: правільна размеркаваць садкі з розным часавым рэжымам па горадзе. Тады бацькі ў любым выпадку змогуць уладкаваць дзіця ў садок непадалёк ад дома. Пытанне трэба добра прадумаць, бо дашкольнікаў, асабліва самых маленькіх, непажадана перавозіць у гарадскім транспарце, каб пазбегнуць розных захворванняў.

І на заканчэнне хачу сказаць: якім бы шляхам ні пайшлі ў Навапалацку, ад гэтага не павінны пакутаваць дзеці. Таму варта яшчэ раз прааналізаваць сітуацыю і вырашыць яе на карысць дашкольнікаў.

**Наталля АЛЁХІНА.**

